# ПАГОНЯ

Чацвер
20 траўня 1999 г.
№ 35 (412)
Кошт 20.000 руб.


## Спекхард напісаў Леванеўскаму

Пакуль Валерый Леванеўскі адседжваў 13 сутак, амбасадар ЗША ў Беларусі Дэніел Спекхард даслаў на яго імя факс, у якім выказаў сваю глыбокую занепакоенасць «фактам затрымання за спробу мірнага палітычнага волевыяўлення» і шкадаванне, што «не меў магчымасці сустрэцца з ім у Менску».

**Алеся Макоўская**

## Спазніліся?

**У ліпені Савет Міністраў краіны мае намер разгледзець на адпаведнасць займаемым пасадам дырэктараў Светлагорскага, Гарадзенскага і Магілёўскага вытворчых аб'яднанняў «Хімвалакно».**

Як стала вядома з крыніцы, блізкай да ўрада, штуршком для магчымага прыцягнення да персанальнай адказнасці кіраўнікоў стане тая абставіна, што ўзначальваемыя імі аб'яднанні маюць пратэрмінаваныя плацяжы па замежных крэдытах, якія браліся пад гарантыю ўрада, і не спяшаюцца іх пагашаць. Так, з 18,6 млн. даляраў ЗША агульнай пратэрмінаванай запазычанасці каля 7 млн. даляраў ЗША прыпадае на гэтыя аб'яднанні хімічнай галіны. А вось кіраўніцтва Менскага завода халадзільнікаў «Атлант», відавочна, здолее пазбегнуць тлумачэнняў з Саветам Міністраў, паколькі прадпрыемства праплаціла 1,5 млн. даляраў ЗША з пратэрмінаваных каля 11 млн. і зараз вядзе перамовы з інвестарам аб рэструктурызацыі доўга.

Падчас свайго нядаўняга візіту ў Гомельскую вобласць прэм'ер-міністр Беларусі Сяргей Лінг крытычна выказаўся пра дзеянні кіраўніцтва ўказаных хімічных прадпрыемстваў па ўплаце пратэрмінаваных грашовых сродкаў. Ён, у прыватнасці, заявіў: «Урад не дапусціць, каб імідж дзяржавы падрываўся вось такімі дзеяннямі».

Надзвычай дзіўнымі выглядаюць падобныя заявы з улікам тых абставінаў, што генеральны дырэктар Гарадзенскага «Хімвалакно» нядаўна пайшоў на пенсію, а ягонае месца заняў ягоны калега са Светлагорску.

**Ірына Макавецкая**

## З кожнага аўтобуса па 100 злотых

**Не выключана, што бліжэйшымі днямі прадстаўнікі памежных, мытных ды іншых зацікаўленых ведамстваў Беларусі і Польшчы збяруцца для таго, каб абмеркаваць сітуацыю, што склалася на мяжы дзвюх краін. Размова ідзе пра новы парадак афармлення транспартных сродкаў, уведзены польскім бокам з 9 траўня.**

З гэтага дня для перасякаючых мяжу грузавікоў, якія ўмяшчаюць больш за 9 тон, і пасажырскіх аўтобусаў уведзены вялікія грашовыя зборы, так званыя «ўраўнаважваючыя» падаткі. На думку беларускіх мытнікаў, Польшча ўвяла такія высокія стаўкі для беларусаў у адказ на зборы з беларускага боку, якія паступова павышаюцца. З 10 сакавіка, напрыклад, Брэсцкі аблвыканкам увёў мясцовы збор для грузавікоў, якія перасякаюць шэраг кантрольна-прапускных пунктаў, а з 1 красавіка — для грузавікоў, якія едуць праз тэрмінал «Саваўта—Брэст». Акрамя таго, усім перасякаючым мяжу даводзіцца плаціць экалагічны падатак.

На думку начальніка аддзела перавозак аб'яднання «Брэстаблаўтатранс» Уладзіміра Красцьянычыка, уведзены Польшчай памежны падатак можа сарваць шэраг аўтобусных маршрутаў, якія дзейнічаюць паміж Брэстам і польскімі гарадамі. Больш таго, польскія мытнікі ўзмацнілі жорсткасць праверкі перасякаючых мяжу транспартных сродкаў. Калі некалькі тыдняў таму за суткі яны аглядалі 500 машын, то апошнім часам — усяго да 300. З-за гэтага чэргі на грузавым пераходзе «Казловічы» расцягнуліся на дзесяткі кіламетраў.

**Валянціна Казловіч**




**21 і 22 траўня** - сонечна, невялікая воблачнасць. Вецер пераменных напрамкаў, слабы. Тэмпература паветра ўначы +6...+8, удзень +15...+20.

# Што змерзла, тое не згніе!

**З-за моцных халадоў у траўні на Беларусі загінулі пасевы збожжавых культур на плошчы больш за 20 тысяч гектараў. Пра гэта паведаміў дырэктар Беларускага НДІ земляробства і кармоў, доктар сельскагаспадарчых навук, прафесар Міхаіл Кадыраў на прэс-канферэнцыі «Навука — аграрнай вытворчасці», якая адбылася 18 траўня.**

Ён паведаміў: пачынаючы з другога траўня, на тэрыторыі Беларусі назіраліся надзвычай нізкія для гэтага часу тэмпературы паветра, якія ўначы часам дасягалі 12-ці градусаў марозу. Такія халады ў траўні не назіраліся раней не толькі на Беларусі, але і ў еўрапейскіх краінах. У выніку, паводле словаў вучонага, пацярпелі не толькі пладова-ягадныя і збожжавыя культуры, пашы і сенажаці, але нават пасевы каранеплодаў.

Напрыклад, чакаемая ўраджайнасць бульбы ў сярэднім па краіне знізіцца прыкладна на 25 працэнтаў. Адмоўнае ўздзеянне халадоў на развіццё раслін узмацняецца адсутнасцю дажджоў і недахопам вільгаці ў зямлі. У такой складанай сітуацыі, на думку М.Кадырава, аграхімічныя службы раёнаў павінны штодзённа аглядаць пасевы, праводзіць іх падкормку, баранаванне і рыхтаванне да паўторнай сяўбы.

Вучоныя звярнуў асаблівую ўвагу на неабходнасць стварэння гатункаў сельскагаспадарчых культур, якія самі сябе абараняюць ад хвароб і здольныя ў першую чаргу паглынаць пажыўныя рэчывы з паветра.

**Марат Гаравы**



Канец XX стагоддзя, Еўропа, Беларусь, эпоха праўлення прэзідэнта Лукашэнкі. На калгас спадзяванняў няма...

# Тэрор уладаў супраць сваіх грамадзянаў працягваецца

**18 траўня у Гродне ў 9.40 быў затрыманы намеснік старшыні Гарадзенскага прафсаюза прадпрымальнікаў Аляксандр Васільеў.**

Затрыманне адбывалася каля будынка Кастрычніцкага РАУС, куды А.Васільеў прыйшоў сустракаць Валерыя Леванеўскага, які адседзеў 13 сутак у лукашэнкаўкай турме. Арыштавалі А.Васільева без прад'яўлення яму абвінавачвання, сілай, супраць яго волі завялі ў міліцэйскі пастарунак, забаранілі атрыманне прававой дапамогі.

Як стала вядома, А.Васільеў будзе абвінавачаны ў тым, што нібыта 6-7 траўня арганізаваў несанкцыянаваны мітынг на рэчавым рынку ў п.Паўднёвым.

**Ул. інф.**

**P.S.:** Учора, 19 траўня, павінен быў адбыцца суд над А.Васільевым. Аднак стала вядома, што суд не адбыўся з прычыны...няправільнага афармлення пратаколу. Суд перанесены на іншы дзень.

# Галаданне выратуе ваша жыццё

**Стратэгічнымі прадуктамі ў нас, як вядома, з'яўляюцца сала і каўбаса. Аднак з-за недаступнасці прадуктаў жывёльнага паходжання, якая ўвесь час узрастае, людзі вымушаны цікавіцца новымі тэорыямі паасобнага харчавання ці перыядычнага галадання.**

Пагалоўе кароваў і свіней у Беларусі скарачаецца, мясакамбінатам не хапае сыравіны; а тое, што ёсць, даражэе. Аднак жывуць жа людзі і без мяса, на рыбе, садавіне, гародніне. Магчыма, быць вегетарыянцам больш выгадна?

Па медычных нормах, даросламу чалавеку на дзень патрэбна не менш за паўкіло агародніны, 300-500 грамаў свежых ягадаў, яблыкаў, цытрусавых. А хто з нас можа пахваліцца прысутнасцю на сваім стале пругкай расістай зеляніны, напрыклад, кінзы, сельдэрэя, пятрушкі? Садавіна ж выклікае ў пакупнікоў не апетыт, а раздражненне з-за дарагавізны. Увесну, пакуль не вырасла яшчэ такая-сякая зеляніна на лецішчах і гародах, цяжкавата і са звыклай бульбай, капустай, морквай. У крамах яны не заўсёды бываюць, таму гаспадыні вымушаны ісці на базар за вегетарыянскай ежай.

У сераду на рынках горада агуркі прадавалі па 240-270 тысяч рублёў, памідоры каля 500 тысячаў. Тут жа і жаданыя пучкі радыскі па 100 тысяч, зялёнай цыбулі і салаты па 20-50 тысяч.

Морква і буракі за зіму у кладоўках і падвалах гараджан ці падвялі, ці ўжо скончыліся. Бабулькі ж прапаноўваюць «бадзёрую» морквачку з хатніх склепаў па 100 тысяч, крыху сапсаваную - па 80. Вядро «другога хлеба» - бульбы - менш чым за 300 тысяч наўрад ці аддадуць. Яблыкі можна купіць па 300-400 тысяч.

Думаецца, прыгадваць цэны на галандскія грушы, перац, кітайскія карняплоды, ананасы ды іншыя прысмакі не трэба. Купіўшы па кілаграму кожнага дэлікатэсу, беларускі вегетарыянец развітаецца са сярэднестатычным заробкам у 15-20 даляраў.

Цяпер пра рыбу. Гэтая ежа прывязаная, і яе кошт розніцца ў кожнай краме. Зрэдку бывае, што залежалы мінтай у дзяржгандлі прадаецца танней, чым на рынку. Сярэдні кошт папулярных мінтая, скумбрыі, траскі, камбалы вар'іруецца ў межах 400-550 тысяч за кілаграм. Эканомныя гаспадыні напрактыкаваліся смажыць свежамарожаны селядзец, які ў «рыбных» краінах нават не лічыцца за ядомую рыбу. Ёсць на рынку і больш «элітныя» гатункі рыб: палтус, гарбуша, зубатка. Яны каштуюць у два разы больш, чым звычайныя.

Як бачым, здаровае, вітаміннае харчаванне для нас нерэальнае. Пра якое здароўе нацыі можна казаць, калі людзі ў сярэднім аддаюць па 80-95 працэнтаў грошай на прадукты харчавання і вымушаны эканоміць на самым неабходным - на харчаванні.

**Алена Сіневіч**

# Трубяць трубы гарадзенскія або «Жорсткі раманс» працягваецца

**У мінулую нядзелю ў Гродне прайшоў фестываль духавых аркестраў.**

Фэст пачаўся ў цэнтры горада, адкуль з музыкай аркестры Гарадзеншчыны прайшлі да гарадскога парку культуры і адпачынку імя Жылібера. Святочную праграму распачаў гарадскі духавы аркестр «Гарадзенскія трубы» з класічнай праграмай, у якой фінішавала мелодыя Г.Свірыдава з кінафільму «Метель». Наогул, музычныя калектывы Гарадзеншчыны чамусьці схіліліся да расійскага рэпертуару, наогул забыўшыся на цудоўную беларускую музыку, напрыклад, Манюшкі ці таго ж Агінскага. Самымі папулярнымі аўтарамі фестывалю былі Армстронг, Фрадкін, Свірыдаў, Чайкоўскі, Тухманаў, Агапкін са знакамітым «Развітаннем славянкі». На свяце духавой музыкі гаспадарыў постсацыялістычны набор, з якім народ пазнаёміўся яшчэ на ўроках спеваў у савецкай сярэднеадукацыйнай школе.

Аднак нягледзячы на гэткую знакамітасць «вялікіх» твораў, публіка не песціла музыкаў сваёй прыхільнасцю. Свята пачалося недзе апоўдні і фінішавала надвячоркам. Але лавы каля танцавальнай пляцоўкі гарадскога парка ўвесь дзень былі напалову вольныя, таму што народ больш вабілі шашлыкі ды гарэлка з вулічных латкоў, чым музыка.

Але некаторыя, асабліва тыя, каму не хапіла месца пад двума парасонамі ля вынасных столікаў з закускай, сядалі-такі паўзіраецца на прывабныя гарнітуры музыкаў. Асабліва ўразіў сваімі гусарскімі строямі Гібуліцкі аркестр. Воранаўскі духавы аркестр дома культуры ў творчым імпэце запрасіў публіку на сапраўдны цудоўны старадаўні вальс. Пабачыўшы інфэрнальнасць у шэрагах слухачоў, музыкі палічылі за лепшае ўрэзаць добравядомы «Жорсткі раманс», марш з кінафільма Мікіты Міхалкова.

Вось так і вагалася музычная эліта Гарадзеншчыны паміж «Ave Maria» Качыні і «Днём Перамогі» У.Карызны. Аднак, як зазначыла супрацоўніца з аддзела культуры аблвыканкама спадарыня Лебедзь, «перамагла музыка». Дыплом першай ступені атрымаў народны аркестр Навальненскага дома культуры. Дыплом другой ступені атрымаў палац культуры Бярозаўскага шклозавода «Нёман». На трэцім месцы апынуўся калектыў з Воранава са сваім «Жорсткім рамансам».

Сярод дзіцячых калектываў узнагародамі адзначаны музыканты з Астравецкай школы, Лідскай дзіцячай музычнай школы, Парэцкай школы.

Сярод салістаў адзначыліся Павел Мазюк і Вадзім Кароль. Узнагароджаныя спецыяльнымі прызамі і кіраўнікі пераможных аркестраў з Бярозаўкі і Навальні Віктар Зуеў і Аляксандр Літвінскі.

Свята духавой музыкі прыгадвае ідылію свецкіх мяшчанаў, калі дамы ў гарсэтах у захапленні «каптурыкі кідалі», а кавалеры пазвонвалі шаблямі. Сёлетні ж фэст выклікаў у нешматлікай і, шчыра кажучы, незацікаўленай публікі вялікія водгукі, накшталт «тушы свет, кідай гранату», - так пракаментавалі падлеткі ў парку пазаконкурснае выкананне п'есы Шчадрына. Не ў пашане ў нас усходняя класіка, не ў пашане... Нават з нагоды юбілея Пушкіна.

**Кацярына Стадол**

# 16 траўня Ганчар патрэніраваўся?

**Як стала вядома, Цэнтральная камісія па выбарах Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь пасля разгляду пратаколаў абласных і Менскай гарадской камісіяў па выбарах Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь пастанавіла: прызнаць выбары Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь адбыўшыміся. Пры гэтым было адзначана, што ў выбарах у цэлым па рэспубліцы прыняло ўдзел больш за палову грамадзянаў, унесеных у спісы выбаршчыкаў, - 4 000 804 чалавекі, ці 53,02 працэнта.**

Тым не менш, выбары Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь у частцы вынікаў галасавання па кандыдатах, унесеных у бюлетэні па выбарах Прэзідэнта, прызнаныя несапраўднымі з-за дапушчаных у ходзе выбараў парушэнняў, што паўплывалі на вынікі выбараў:

- стварэння дзяржаўнымі органамі перашкодаў для свабоднага ажыццяўлення грамадзянамі Рэспублікі Беларусь права выбіраць Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь;

- адсутнасці права свабоднага і ўсебаковага абмеркавання выбарчых праграмаў кандыдатаў у Прэзідэнты і вядзення агітацыі «за» ці «супраць» кандыдатаў;

- парушэнні Закона «Аб выбарах Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь» кандыдатам у Прэзідэнты З.Пазьняком, які дапусціў распаўсюджванне несапраўдных звестак пра другога кандыдата ў Прэзідэнты і дзейнасці Цэнтральнай камісіі, а таксама публічныя заклікі да байкатавання выбараў.

Паўторныя выбары Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь плануецца прызначыць на працягу трох месяцаў пасля асноўных выбараў з паўторным вылучэннем кандыдатаў у Прэзідэнты.

Калі нумар ужо быў падрыхтаваны да друку, з крыніц блізкіх да абласной выбарчай камісіі, стала вядома, як галасавала Гарадзеншчына на выбарах Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь. У прыватнасці, за Пазьняка прагаласавалі 458 453, за Чыгіра - 127 804 выбаршчыкі. Усяго на Гарадзеншчыне, як вядома, 850 тысяч 723 выбаршчыкі.

**Ул. інф.**

# Дык хто застаўся за бортам?

**Пазаўчора на чарговым пасяджэнні Гарадзенская гарадская рада Беларускага Народнага Фронту «Адраджэнне» абмеркавала папярэднія вынікі свайго ўдзелу ў выбарах прэзідэнта краіны.**

Як паведаміў старшыня рады Сяргей Мальчык, паўсюдна з боку ўладаў аказвалася жорсткае супрацьдзеянне рабоце ўчастковых выбарчых камісій. Больш за пятнаццаць чалавек былі затрыманы за агітацыю грамадзян удзельнічаць у выбарах. Былі складзеныя пратаколы. Некалькі асобаў аштрафавана ў судзе. У дні папярэдняга галасавання ва ўсіх інтэрнатах горада назіраўся ўзмоцнены прапускны рэжым. Прахадныя прадпрыемстваў знаходзіліся пад кантролем міліцыянтаў. Канфіскаваны дзесяткі урнаў для галасавання, запоўненыя і чыстыя бюлетэні.

Работнікі праваапараду і кіраўнікі гарадской «вертыкалі» папярэджаны аб крымінальнай адказнасці за дзеянні, накіраваныя на зрыў выбараў. Адпаведныя артыкулы законаў прадугледжваюць за гэта ад трох да пяці гадоў зняволення. Тэрмін прад'яўлення спазаўскі неабмежаваны па часе.

Сяргей Мальчык звярнуў увагу, што арганізацыя выбараў у горадзе і вобласці цалкам лягла на плечы БНФ. Фронт здолеў дэлегаваць сваіх прадстаўнікоў у склад 40 выбарчых участкаў, дзе было задзейнічана дзве тысячы сябраў Беларускага Народнага Фронту. Сваю дапамогу прапанавалі таксама сотні простых людзей.

Іншыя грамадскія арганізацыі і аб'яднанні Беларусі яшчэ раз пераканаліся ў сваёй структурнай неакрэсленасці, нешматлікасці шэрагаў і арганізацыйнай бездапаможнасці. Фактычна не працавала ініцыятыўная група падтрымкі кандыдата ў прэзідэнты Міхаіла Чыгіра. Прадстаўнікі мясцовых арганізацый Аб'яднанай грамадзянскай партыі, Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі «Народная Грамада» ды іншых былі салідарнымі толькі на словах. Ухіліўся ад практычных захадаў у выбарчай кампаніі гарадская рада БСДГ. Адзінай сілай, здольнай на правядзенне шырокамаштабных акцый у краіне, застаецца маналітны Народны Фронт.

Як вядома, лідар Фронту Зянон Пазьняк зняў сваю кандыдатуру з галасавання, матывуючы гэта шматлікімі парушэннямі выбарчага заканадаўства з боку старшыні Цэнтрвыбаркама Віктара Ганчара. Сойм БНФ разгледзе прапанову пераносу тэрміна правядзення чарговага з'езда, прызначанага на ліпень, на больш блізкі час, у прыватнасці, на чэрвень. Магчыма, гэта будзе за межамі Беларусі, але з абавязковым удзелам старшыні Беларускага Народнага Фронту «Адраджэнне».

**Антон Лабовіч**

# Вялікая афёра

**Паважаныя сябры Фронту. Я павінен засяродзіць вашу ўвагу на некаторых аспэктах бягучага моманту дзеля арыентацыі і прыняцьця хуткіх рашэньняў.**

Спачатку нагадаю агульнавядомае. Я ўжо пісаў, што задачай маскоўскага выбарчага праекту, які выконваюць М.Чыгір і В.Ганчар, ёсьць стварэньне «сваёй» (прамаскоўскай, не нацыянальна-вызвольнай) апазыцыі Лукашэнку ў Беларусі і палітычнае зьнішчэньне Беларускага Народнага Фронту. Небясьпека і моц гэтага праекту ў прафэсіяналах і грошах, што былі пакладзеныя на яго выкананьне.

Калі б мы не ўступілі ў выбарчы працэс, тады мы адразу пацярпелі б паражэньне. Мы б ня мелі і не знайшлі б даступных і ўсім зразумелых аргумантаў для абгрунтаваньня няўдзелу ў патрэбных выбарах. Фронт быў бы дззарыентаваны, расколаты, асуджаны грамадзтвам да прыхільнікамі і проста разбураны. Таму і я, і ўвесь Фронт павінны былі ўступіць у выбарчы працэс і змагацца з плянам, складзеным супраць нас.

Я пагадзіўся выставіць кандыдатуру пры ўмове, што будзе строга выконвацца закон «Аб выбарах Прэзыдэнта Рэспублікі Беларусь». В.Ганчар законнасьць гарантаваў. Але потым заканадаўства было ім паламанае, а праект ажыцьцяўляўся сваёй чаргой.

Выбары праводзіцца кіраўніцтвам ЦВК з грубым парушэньнем Закону, шляхам незаконнага пакватэрнага абходу і галасаваньнем па месцы жыхарства. Галасаваньне арганізацыйна незабясьпечанае і фармальна адбывацца толькі ў асобным месцах. Але кіраўнік ЦВК, спасылаючыся на асобныя факты, паведамляе кожны дзень выдуманыя зьвесткі пра сотні тысячаў і мільёны прагаласаваўшых выбаршчыкаў.

9, 10 і 11 траўня я апытаў дзесяткі раённых кіраўнікоў Фронту і кіраўнікоў выбарчых камісіяў па ўсёй Беларусі. У пераважнай большасьці раёнаў камісіі не былі гатовыя да працы і галасаваньне не вялося.

У рэальнасьці па Беларусі прагаласавала самае большае - некалькі дзесяткаў тысячаў выбаршчыкаў. (Пакватэрным абходам увогуле немагчыма забясьпечыць масавае галасаваньне). У Віцебскую вобласьць, напрыклад, толькі 13-га траўня завезьлі выбарчыя бюлетэні, па 500 штук на раён. (У кожным раёне ў сярэднім - 50-60 тысячаў выбаршчыкаў). Галасаваньня ў вобласьці фактычна не было (пры невялікім выключэньні). Тым часам кіраўніцтва ЦВК паведаміла, што Віцебская вобласьць «лідыруе» і што там «прагаласавала» да гэтага часу больш за 44 адсоткі выбаршчыкаў. Па ўсёй Беларусі на 15-га траўня пададзена выдуманая фантастычная лічба прагаласаваўшых - 3 мільёны 676 тысячаў (48 адсоткаў).

Гэта вялікая афёра і нахабнае ашуканства. На Беларусі ў барацьбе з Беларускім Народным Фронтам усходнімі «архітэктарамі» ўпершыню ўжыты мэтад адкрытай дэманстратыўнай фальсыфікацыі галасаваньня. Пры гэтым спадар Ганчар падкрэсьлівае, што галоўную працоўную сілу на выбарах складае Народны Фронт. Кіраўнік ЦВК кожны дзень паведамляе неіснуючыя лічбы, і кожны дзень лукашэнкаўскі рэжым арыштоўвае фронтаўцаў, цягне пад суд, дае штрафы, садзіць за краты. 14-га траўня ў Магілёўскай вобласьці міліцыя схапіла 82 чалавекі.

На фоне дэманстратыўнай фальсыфікацыі галасаваньня адбываецца «спаленьне» Фронту і яго людзей (арышты, турмы, штрафы, крымінальныя справы, звальненьне з працы, пэрспэктыва забароны арганізацыі). На нашых вачах пад звон цынічнага ашуканства Фронт зацягваюць у багну, у хлусьню, у бруд, зь якога няма ратунку. Людзі з сьветлымі намерамі, ня ведаючы праўды, ахвяруюцца за шулерства чужых, за крымінал і не разумеюць, што іхныя рэальныя тысячы прагаласаваўшых нічога ня значаць перад фальшывымі мільёнамі старшыні ЦВК В.Ганчара. Яны ня ведаюць, што сталі прыладай ў руках афэрыстаў, што іхная ахвярнасьць і праца ня пойдуць на карысьць Беларусі.

11 траўня, грунтуючыся на Законе і на законапаслухмянай пазыцыі Фронту (Ухвала Сойму БНФ ад 8 траўня), я рэкамэндаваў сябрам БНФ тэрмінова выходзіць з выбарчай прафанацыі, пакуль увесь Фронт не павязалі хлусьнёй. 13-га траўня я зьняў сваю кандыдатуру.

Тым ня менш, кіраўнік ЦВК працягвае сваю справу - кожны дзень аб'яўляе пра новыя сотні тысячаў «прагаласаваўшых» выбаршчыкаў. Ёсьць нават «творчае разьвіцьцё» праекту. Кіраўнік ЦВК раптам пачаў казаць, што прадаўжае лічыць мяне кандыдатам у прэзыдэнты і не прызнае маёй заявы ў СМІ і заявы, накіраванай на яго імя факсам, бо тэрба, маўляў, арыгінал (відаць, «вялікія архітэктары» загадалі паставіць мне «нуль» у ганчараўскіх мільёнах «прагаласаваўшых»).

Вынікі гэтых падзеяў даволі сур'ёзныя.

Беларусь траціць шанец правядзеньня законных выбараў Прэзыдэнта. Выбары скампрамэтаваныя. Ніякага прызнаньня вынікаў галасаваньня (якімі б яны ні былі) ня можа быць. Няма каму гэтыя вынікі анюляваць, каб правесьці новыя выбары.

Як і ў 1994-м годзе, у апэрацыі правядзеньня прэзыдэнцкіх выбараў у Беларусі былі задзейнічаны тыя ж самыя заплечныя сілы і нават тыя ж канкрэтныя выканаўцы.

Калі б удалося прымусіць кіраўніка ЦВК строга выконваць Закон, то нават у гэтай сытуацыі можна было б пачаць канцэптуальны працэс прэзыдэнцкіх выбараў, якія з-за перашкодаў з боку ўлады можна было б законна прыпыніць і потым законна давесьці да лягічнага канца. Цяпер гэтая магчымасьць зьнішчаная.

Змаганьне з маскоўскай палітыкай налёгкае і няпростае. Практычна ўсе рэальныя палітычныя падзеі, канфлікты і зьявы, што мы назіраем цяпер у Беларусі, ёсьць адлюстраваньне аднаго зместу: барацьбы за Беларусь паміж імпэрскай Расеяй і нацыянальнымі сіламі беларускай незалежнасьці.

У сітуацыі, калі практычна немагчыма было перамагчы, Беларускі Народны Фронт выстаяў, захаваў сваю палітыку і зьберогся ад кампрамэтацыі і разбурэньня, хоць чатыры месяцы былі фактычна страчаныя на вельмі цяжкую працу і змаганьне.

Трэба разумець, што ўдзел у «дзіўных выбарах» і развязка змаганьня, адбіліся моцным эмацыйным стрэсам на Фронце. Але ўжо няма сумненьня, што Фронт цьвёрда пераажывае гэты стрэс і зь мінімальнымі стратамі.

**Зянон Пазьняк,**
**Старшыня БНФ «Адраджэньне»**
**15 траўня 1999 г.**

# Жарсці вакол выбараў ахалодзіў Севярын

**17 траўня дэлегацыя Вярхоўнага Савета Беларусі 13-га склікання ў Парламенцкай Асамблеі АБСЕ, у склад якой уваходзяць Сямён Шарэцкі, Анатоль Лябедзька і Уладзімір Нісцюк, сустрэліся з кіраўніком рабочай групы па Беларусі пры АБСЕ, які знаходзіцца ў Менску, Адрыянам Севярынам.**

Як стала вядома, гутарка цягнулася больш за тры гадзіны і ахоплівала некалькі дзесяткаў пытанняў. Прадстаўнікі Вярхоўнага Савета, даючы па просьбе спадара Севярына ацэнку прэзідэнцкім выбарам, якія прайшлі ў краіне з 6 па 16 траўня, адзначылі, што, у пэўнай ступені, выбары ўжо сталі гісторыяй, і трэба, узяўшы ўсё лепшае з досведу іх правядзення, рухацца далей. Канешне, прызналі парламентары, у цяперашніх умовах нерэальна, што пасля абнародавання вынікаў выбараў адбудзецца фактычная перадача ўлады з рук Аляксандра Лукашэнкі ў рукі новага кіраўніка дзяржавы. Але, як сказаў наконт гэтага Анатоль Лябедзька, «без выбараў не было б і сур'ёзных крокаў пасля 20 ліпеня 1999 года, калі закончыцца 5-гадовае праўленне прэзідэнта Лукашэнкі».

Падчас перамоваў бакі абмеркавалі таксама некаторыя дэталі правядзення чарговай сесіі Парламенцкай Асамблеі АБСЕ, якая пройдзе ў пачатку ліпеня ў Санкт-Пецярбургу (Расія).

***

**Падчас свайго візіту ў Менск кіраўнік рабочай групы Парламенцкай Асамблеі АБСЕ па Беларусі Адрыян Севярын абмяркоўваў з прадстаўнікамі ўрадавых структураў, апазіцыі і няўрадавых арганізацый, у асноўным, тры праблемы: перарэгістрацыя палітычных партый і грамадскіх арганізацый; палітычныя наступствы прэзідэнцкіх выбараў, нядаўна праведзеных па ініцыятыве Вярхоўнага Савета Беларусі 13-га склікання; неабходнасць і перспектывы правядзення ў краіне свабодных і справядлівых выбараў.**

Аб гэтым румынскі дыпламат паведаміў 18 траўня на прэс-канферэнцыі, якая прайшла ў Менскім міжнародным адукацыйным цэнтры. Паводле яго словаў, улічваючы заклапочанасць беларускіх палітычных партый і грамадскіх арганізацый умовамі іх перарэгістрацыі, сябры рабочай групы ўзнімалі гэтае пытанне на сустрэчах з прадстаўнікамі ўладаў і прадставілі стандарты АБСЕ, якія датычацца існавання палітычных партый і грамадскіх арганізацый у адкрытых грамадзянскіх грамадствах.

«Міжнародная супольнасць з вялікай увагай сочыць за працэсам перарэгістрацыі і чакае справядлівага і аднолькавага стаўлення да ўсіх арганізацый», — заявіў Адрыян Севярын. Пры гэтым ён папярэдзіў: «незабеспячэнне роўнага падыходу да ўсіх арганізацый будзе мець сур'ёзныя наступствы для міжнародных і нацыянальных інтарэсаў Беларусі». Што да праведзеных Вярхоўным Саветам выбараў прэзідэнта, то, на думку А.Севярына, з-за шэрагу перашкодаў гэтай кампаніі з боку ўладаў, «не чакалася, што выбары 16 траўня будуць адпавядаць стандартам АБСЕ». Тым не менш, на думку дыпламата, «яны складаюць важны крок у накірунку неабходнага палітычнага дыялогу паміж урадам і апазіцыяй».

«Незалежна ад неадкладных вынікаў гэтай палітычнай кампаніі, яе ўрокі будуць зразумелыя ўсімі», — выказаў надзею А.Севярын.

***

**Рабочая група Парламенцкай Асамблеі АБСЕ мае намер правесці ў чэрвені ў Бухарэсце слуханні па Беларусі з удзелам прадстаўнікоў афіцыйных уладаў, апазіцыі і няўрадавых арганізацый рэспублікі. Аб гэтым 18 траўня на прэс-канферэнцыі, прысвечанай вынікам свайго візіту ў Беларусь, паведаміў кіраўнік гэтай рабочай групы Адрыян Севярын.**

Ён лічыць, што мэтай маючых адбыцца слуханняў павінна стаць вывучэнне шляхоў і спосабаў, якія змогуць прывесці да дэмакратычных выбараў у Беларусі. Дыпламат падкрэсліў, што АБСЕ хацела б бачыць удзел усіх палітычных сіл рэспублікі ў выбарчым працэсе, бо, на яго думку, толькі ў такім выпадку ў краіне могуць быць створаны законныя інстытуты ўлады. Пры гэтым А.Севярын адзначыў: «Рабочая група прызнае нарастаючую сілу плюралістычных палітычных сіл у Беларусі, а ўцягванне і ўдзел многіх грамадзянаў у спробе правядзення прэзідэнцкіх выбараў, якія, на думку многіх краін, павінны праводзіцца сёлета, заслугоўвае павагу ў краінах з дэмакратычным праўленнем».

Спадар Севярын лічыць, што «ў інтарэсах развіцця дэмакратычных структураў неабходна будзе стварыць найвышэйшую магчымую ступень яднання і згуртаванасці апазіцыйных сіл і допуску іх да стварэння шырока прызнаных, легітымных інстытутаў улады». Такая заява была выклікана тым, што, як паведаміў А.Севярын, рабочая група была праінфармавана пра факты «адміністрацыйнага праследавання і юрыдычных контрзахадаў», прадпрынятых уладамі ў дачыненні да актывістаў выбарчай кампаніі. У прыватнасці, па словах дыпламата, «шмат пытанняў выклікае ўтрыманне ў следчым ізалятары аднаго з кандыдатаў у прэзідэнты», супраць чаго выступае рабочая група. Асоба спадар Севярын падкрэсліў неабходнасць правядзення дыялогу паміж уладамі і апазіцыяй для «дасягнення кансенсусу на юрыдычнай аснове для свабодных і справядлівых парламенцкіх і прэзідэнцкіх выбараў». Пры гэтым ён прызнаў, што паміж бакамі патэнцыяльнага дыялогу ў гэты час не існуе даверу. У той жа час, на думку дыпламата, ва ўладаў і апазіцыі «ёсць жаданне пачаць сур'ёзны дыялог».

Слуханні ў Бухарэсце, як і цяперашні візіт спадара Севярына ў Менск (ужо трэці па ліку), з'яўляюцца складнікамі падрыхтоўкі да прызначанага на ліпень пасяджэння сесіі Парламенцкай Асамблеі АБСЕ.

***

**Адрыян Севярын — кіраўнік рабочай групы Парламенцкай асамблеі АБСЕ па Беларусі — адмовіўся каментаваць факт правядзення ў рэспубліцы выбараў, арганізаваных Вярхоўным Саветам Беларусі 13-га склікання, і іх вынікі.**

Як заявіў румынскі дыпламат на прэс-канферэнцыі 18 траўня, мэтай знаходжання рабочай групы ПА АБСЕ ў Менску на завяршальным этапе выбараў (група прыбыла ў Менск 14 траўня) не з'яўлялася назіранне за імі. Што ж тычыцца яго асабістага меркавання аб выбарах, то А.Севярын кваліфікаваў гэтыя выбары не больш як «палітычную падзею», з якой неабходна атрымаць пэўныя ўрокі як АБСЕ і міжнароднай супольнасці, гэтак беларускім уладам і апазіцыі.

«Думаю, што і апазіцыя, і ўлады будуць выкарыстоўваць гэтую палітычную падзею пазітыўным чынам», — выказаў меркаванне спадар Севярын. Кіраўнік рабочай групы ПА АБСЕ па Беларусі выказаўся таксама за тое, каб разглядаць прайшоўшыя выбары «ў якасці пункту адліку для больш асэнсаваных, больш сур'ёзных і канструктыўных перамоваў, якія павінны прывесці да станоўчых вынікаў з пункту погляду вырашэння канстытуцыйнага крызісу».

**Уладзімір Глод,**
**Вячаслаў Будкевіч**

# Асаблівы кантроль з боку дзяржавы за багатымі

**Палата прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь на мінулым тыдні прыняла Закон «Аб мерах па прадухіленню легалізацыі даходаў, атрыманых незаконным шляхам».**

Законапраект акрэслівае прававыя і арганізацыйныя падставы папярэджання, выяўлення і спынення фінансавых аперацый, мэтай якіх з'яўляецца легалізацыя даходаў, атрыманых незаконным шляхам.

Нагадаем, што ўжо больш як два гады, у адпаведнасці з артыкулам 5 Дэкрэта Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь N2 ад 12 лютага 1997 года і Пастановай Савета міністраў Рэспублікі Беларусь N221 ад 19 сакавіка 1997 года «Аб некаторых пытаннях дэкларацыі даходаў і маёмасці фізічных асобаў у Рэспубліцы Беларусь», дзейнічае правіла: натарыяльнаму засведчанню падпадаюць здзелкі, што перавышаюць 500 мінімальных заробкаў, толькі пры наяўнасці даведкі падатковага органа наконт падання дэкларацыі аб крыніцах грашовых сродкаў, якія выдаткоўваюцца на ажыццяўленне здзелкі. Фізічным асобам належыць падаць у падатковую інспекцыю па месцы пастаяннага жыхарства ці па месцы здзяйснення здзелкі дакументальныя пацверджанні заробленых грашовых сродкаў.

У якасці пацверджанняў могуць быць:

1) даведкі з месца працы аб заробку ці іншых выплатах;

2) дамовы дарэння грошай, натарыяльна засведчаныя, калі сума перавышае 50 мінімальных заробкаў (50 мільёнаў рублёў);

3) дамовы пазыкі грошай;

4) дамовы куплі-продажу нерухомай маёмасці, аўтамабіляў ці іншай маёмасці;

5) пасведчанні аб праве на спадчыну па закону альбо па тэстаменту на грашовыя ўклады ды іншыя дакументы.

У дадатак да Дэкрэта N2 і Пастановы N221 у Законапраекце «Аб мерах па прадухіленню легалізацыі даходаў, атрыманых незаконным шляхам» ёсць пералік фінансавых аперацый, што падлягаюць асабліваму кантролю з боку дзяржавы. Да патэнцыяльных махінацыяў дэпутаты Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу аднеслі аперацыі з наяўнымі грашовымі сродкамі, аперацыі па балансавых рахунках, міжнародныя пераводы грашовых сродкаў, аперацыі з каштоўнымі паперамі. Але толькі ў тым выпадку, калі сума здзелкі з удзелам фізічных асобаў перавышае 2 000 мінімальных заробкаў, а з удзелам юрыдычных асобаў - 20 000 «мінімалак», што складае у даляравым эквіваленце адпаведна 4500 і 45 000 «зялёных». Наогул, асаблівы кантроль - гэта кантроль і па Дэкрэту, і па Закону.

Акрамя таго, у Законапраекце пералічаны дзяржаўныя органы, якія павінны здзяйсняць кантроль (хіба зараз не кантралююць?) за парадкам правядзення падобных фінансавых аперацый. Функцыі каардынавання дзейнасці гэтых органаў ускладзены на дзяржаўны сакратарыят Савета бяспекі Рэспублікі Беларусь. Рашэнне агульных пытанняў міжнароднага супрацоўніцтва ў барацьбе з нелегальнымі даходамі ўскладзена на Міністэрства замежных спраў РБ і Міністэрства ўнутраных спраў РБ.

Закон «Аб мерах па прадухіленню легалізацыі даходаў, атрыманых незаконным шляхам» увойдзе ў сілу толькі пасля ўхвалення Саветам Нацыянальнага сходу РБ і адпаведнага подпісу кіраўніка дзяржавы. Апошнія не прымусяць доўга сябе чакаць, бо заканадаўчая ініцыятыва зыходзіла зусім не ад грамадзянаў рэспублікі.

**Сяргей Міронаў**

# Дачакаліся «КАЛОСЬСЯ»

**Нарэшце пабачыў свет доўгачаканы шосты нумар літаратурна-мастацкага альманаха «КАЛОСЬСЕ», які штогод выдае Таварыства Вольных Літаратараў.**

Выданне адкрываецца урыўкам з рамана аўстралійскага пісьменніка Томаса Кэнэлі «Сямейнае вар'яцтва» ў перакладзе з ангельскай мовы Яна Максімюка. Сусветную вядомасць аўстралійцу прынёс квазі-дакументальны раман «Спіс Шындлера», паводле якога славуты Стывен Спілбэрг паставіў аднайменны фільм. У «Сямейным вар'яцтве» распавядаецца пра лёс беларускіх эмігрантаў у Аўстраліі.

Рубрыка CLASSIC прэзентуе чытачам постаць класіка албанскай літаратуры Мідзьені (1911-1938), лёс якога нагадвае лёс нашага Максіма Багдановіча. Замалёўкі і вершы Мідзьені пераклалі Вінцэсь Мудроў, Алег Мінкін і Навум Гальпяровіч.

Аматараў сучаснай беларускай прозы зацікавяць містычныя апавяданні Сяргея Мінскевіча «Саламяная кветка» і Лаўрэна Юрагі «Віленская карчма», дзе праз смугу стагоддзяў бачныя постаці гожых шляхцічаў і шляхцянак, катаў і вядзьмарак, апавітых нястомнаю прагаю кахання. Дасціпны гумар з элементамі палітычнай сатыры праглядаецца ў аповесці Вінцэся Мудрова «Іду на таран», дзе нашы пільныя памежнікі пакладаюць усе намаганні, каб знішчыць варожы паветраны шар. Кавалкі з аповесці ўжо агучвала беларуская служба радыё «Свабода». Сугучна мудроўскай рэчы апавяданне Сяргея Астраўца «Радзівілаўскія дамавіны», якое прысвячаецца сумнавядомаму рэферэндуму. Абсурдысцкай ironіяй і гульнёй палітычнымі лозунгамі недалёкага слаўнага мінулага напоўнены фарс-рэквіем Ігара Сідарука «Бабусечкі».

Дакументальны жанр у альманаху пачынаецца гутаркай з вядомым літаратуразнаўцам Міхасём Тычынам пра агульныя заканамернасці развіцця айчыннай і сусветнай літаратураў. Юры Гумянюк у нарысе «Візуальная тэрапія памяці» вяртаецца ў часы гарбачоўскай перабудовы і шушкевічаўскай адлігі, малюючы на тле «гістарычных падзей» постаць паэта Андрэя Пяткевіча (1966-1995). Алесь Аркуш у эсэ «Неспакой, выкліканы сабачым выццём» рэфлексуе з нагоды ролі, якую адыгрывае літаратура ў пасюдзённым жыцці чалавека.

Паэзія ў «КАЛОСЬСІ» N6 прадстаўлена вершамі Віктара Шніпа, Анатоля Брусевіча, Леры Сом, Хведара Ніцкі, Эдзіка Мазько, а таксама іхніх калегаў-сучаснікаў - украінца Івана Лучука (пераклад Алеся Аркуша і Навума Гальпяровіча) і паляка Пятра Міцнэра (пераклад Юрыя Гуменюка).

У рубрыцы MEMORIA мастацтвазнаўца Ларыса Міхневіч разглядае творчасць заўчасна памерлага мастака і літаратара Алега Прусава (1970-1996). Тут жа ўпершыню друкуюцца ягоныя апавяданні. Варта адзначыць, што дадзены нумар «КАЛОСЬСЯ» цалкам аздоблены графікай Алега Прусава.

**Ігар Гандлеўскі**

# Пачалася падпіска

**У Беларусі пачалася падпіска на выдаваемыя ў рэспубліцы і краінах СНД (галоўным чынам, у Расіі) газеты і часопісы на другое паўгоддзе 1999 года. У сувязі з ростам цэн і дэвальвацыяй беларускага рубля кошт падпіскі на беларускія выданні на другое паўгоддзе 1999 года ў параўнанні з першым прыкметна ўзрос.**

Пры гэтым павелічэнне падпісной цаны вядучых дзяржаўных газет аказалася больш, чым у недзяржаўных (пры аб'яўленні падпіскі на першае паўгоддзе 1999 года карціна была супрацьлеглай). Да прыкладу, паўгадавы камплект «Советской Белоруссии», «Народнай газеты» і «Рэспублікі» падаражаў адразу ў 3,6 раза (з 300 тысяч да 1 мільёна 80 тысяч рублёў за кожнае выданне), «Звязды» — у 3,65 раза (з 288 да 1 мільёна 50 тысяч), «Чырвонай змены» — у 3,9 раза (з 216 да 840 тысяч).

У той жа час паўгадавы камплект «Свободных новостей» падаражэў у 1,6 раза (з 450 да 720 тысяч рублёў), «Белорусского рынка» — у 1,7 раза (з 288 да 480 тысяч), «Здравого смысла» — у 1,8 раза (з 600 тысяч да 1 мільёна 80 тысяч), «Белорусской газеты» — таксама ў 1,8 раза (з 300 да 546 тысяч), «Белорусской деловой газеты» — у 2,9 раза (з 960 тысяч да 2 мільёнаў 760 тысяч), «Навін» — у 3 разы (з 600 тысяч да 1 мільёна 800 тысяч).

На некаторыя выданні — як дзяржаўныя, так і незалежныя —можна аформіць толькі квартальную падпіску. Камплект «Знамени юности» на трэці квартал абыйдзецца ў 4,9 раза даражэй, чым на першы (660 тысяч рублёў замест 135 тысяч), «Народнай Волі» — у 2,4 раза даражэй (720 тысяч рублёў замест 300 тысяч).

Сярод беларускіх выданняў самая дарагая паўгадавая падпіска ў спартыўных газет — «Спорт-экспресс в Белоруссии» (11 мільёнаў 700 тысяч рублёў) і «Прессбол» (4 мільёны 32 тысячы).

Прыкметна вырас кошт падпіскі на расійскія выданні. Напрыклад, «Аргументы и факты» падаражалі ў 3,5 раза (з 768,6 тысячы да 2 мільёнаў 658 тысяч рублёў), «Труд» — у 5,5 раза (з 379,8 тысячы да 2 мільёнаў 76 тысяч), «Известия» — у 6,6 раза (з 549 тысяч да 3 мільёнаў 618 тысяч). Поўны паўгадавы камплект папулярнай расійскай газеты «Московский комсомолец» абыйдзецца ў 6 мільёнаў 444 тысячы, «Независимой газеты» — у 4 мільёны 176 тысяч, «Новых известий» — у 7 мільёнаў 236 тысяч рублёў.

Падпіска на другое паўгоддзе 1999 года будзе праводзіцца ў кароткія тэрміны. Падпіска на рэгіянальныя выданні агенцтва «Роспечать» (пасля наймення якіх указаны горад) завершыцца ўжо 22 траўня, на астатнія замежныя выданні — 28 траўня, 4 і 8 чэрвеня (у залежнасці ад наймення), на газеты «Аргументы и факты» (без дадаткаў), «Известия», «Правда», «Коммерсант-Daily», «Труд», «Советский спорт» і некаторыя іншыя расійскія выданні — 15 чэрвеня. Падпіска на беларускія газеты і часопісы завершыцца 18 чэрвеня.

Трэба адзначыць, што пры змяненні ўмоваў канвертацыі валют магчыма змяненне падпісной цаны на выданні краін блізкага замежжа (неабходна будзе даплаціць або ануляваць падпіску). Пры значных інфляцыйных працэсах у Беларусі не выключана змяненне падпісных цэнаў на айчынныя выданні з наступных тэрмінаў.

**Дзмітрый Уласаў**

**P.S.: Падпіска на ПАГОНЮ на месяц каштуе 200.000 рублёў, на квартал 600.000 рублёў.**

# Курсы валют




**На 19 траўня Нацыянальны банк Беларусі ўстанавіў наступныя афіцыйныя курсы валют.**

**Даляр ЗША — 248.000 беларускіх рублёў. Еўра — 265.310,40. Нямецкая марка — 135.651,05. Расійскі рубель — 10.000.**

**У параўнанні з учарашнім днём, афіцыйны курс даляра не змяніўся.**

**На «чорным» рынку наяўнай валюты ў Менску раніцай 19 траўня даляр куплялі па 430.000—435.000 і прадавалі па 445.000—450.000 рублёў.**

**У параўнанні з учарашнім днём, курс не змяніўся.**

**Дзмітрый Уласаў**

# Прэзідэнт руйнуе эканоміку?

**Стаў вядомы змест праекта ўказа прэзідэнта Беларусі аб увядзенні з 1 ліпеня 1999 года часовага рэнтнага збору з беларускіх суб'ектаў гаспадарання пры правядзенні імі знешнегандлёвых тавараабменных (бартэрных) аперацый.**

Па існуючых звестках некаторых афіцыйных СМІ, дадзены ўказ можа быць падпісаны кіраўніком дзяржавы ў самы бліжэйшы час. Згодна з праектам гэтага дакумента, стаўка рэнтнага збору павінна скласці 5 працэнтаў — па кантрактах, заключаных у адпаведнасці з рашэннямі ўрада, альбо якія прадугледжваюць пастаўку ў рэспубліку сыравіны, матэрыялаў, камплектуючых і абсталявання для ўласнай вытворчасці, і 15 працэнтаў — па іншых тавараабменных кантрактах. Указаны збор будзе залічвацца ў фонд падтрымкі экспарту.

Даведаўшыся аб распрацоўцы дадзенага ўказа, аб'яднанне найбуйнейшых беларускіх вытворцаў — Беларуская навукова-прамысловая асацыяцыя — накіравала ў адрас прэзідэнта зварот. У ім гаворыцца аб тым, што ўвядзенне дадатковага рэнтнага збору прывядзе да павышэння сабекошту і зніжэння канкурэнтаздольнасці айчынных тавараў, змяншэння магчымасцяў беларускіх прадпрыемстваў набываць сыравіну, матэрыялы, камплектуючыя і энергарэсурсы, а таксама да росту цэн на імпарт — перш за ўсё, з Расіі.

**Сяргей Балыкін**

# Напачатку было Слова...

**Гэтымі днямі Гродна наведаў старшыня рэспубліканскай рады Таварыства беларускай мовы, вядомы палітык і грамадскі дзеяч, дэпутат Вярхоўнага Савета Беларусі 12-га склікання Алег Трусаў.**

- Літаральна месяц таму адбыўся шосты з'езд ТБМ. Мяне абралі кіраўніком гэтай грамадскай арганізацыі. Аднаўлена прыкладна палова сяброў рады. Трэба зноў працаваць так, як гэта было напачатку 90-х. З нададзеннем матчынай мове статуса дзяржаўнай мы, прызнацца, самасупакоіліся. Час паказаў, што антынацыянальныя сілы шмат дамагліся ў выкараненні беларускага на Беларусі...

***- Значыць, так бы мовіць, мароз-ваявода з дазорам аб'язджае суполкі свае?***

- Сапраўды, знаёмлюся са станам справаў на месцах. Сустракаюся з кіраўнікамі гарадскіх і абласных кіруючых органаў Таварыства. Трэба радыкальна мяняць змест працы. Са старымі меркамі ўжо нельга падыходзіць да адраджэння беларускай мовы. Змяніліся ўмовы яе функцыянавання ў грамадстве, назіраецца рэзкае звужэнне сфераў выкарыстання.

***- Няўжо ўсё так сур'ёзна і безнадзейна?***

- Што вельмі сур'ёзна, то гэта, на жаль, праўда. Рэферэндумы не праходзяць бясследна. Паглядзіце на свой горад, параўнайце колькасць беларускамоўных класаў, не гаворачы ўжо пра школы, сёння і да 1994-га года. Цяпер быць ці не быць класу з беларускай мовай навучання вырашае нават не закон, а чыноўнік ад адукацыі.

Пра безнадзейнасць казаць усё ж такі рана. Зараз як бы назіраецца паварот да мовы. Вось мы ствараем першасныя суполкі. Калі дырэктар школы ці настаўніца беларускай мовы - людзі ініцыятыўныя, працуюць, не азіраючыся на высокія кабінеты, дзе часцяком сядзяць асобы, варожыя да беларушчыны, то справы там на зайздрасць добрыя. Моладзь не адракаецца нацыянальных здабыткаў.

***- Але можна зразумець бацькоў, якія турбуюцца пра будучыню дзяцей. Закончыць сын ці дачка беларускамоўную школу - і куды? Беларускамоўных ВНУ у краіне няма. Зноў жа, падручнікі. Нават для тых апошніх беларускамоўных класаў не стае...***

- Няпраўда гэта. У Менску такой праблемы няма. Ёсць звычайнае нежаданне з боку настаўнікаў, кіраўнікоў школ, раённых аддзелаў народнай адукацыі своечасова паклапаціцца аб патрэбнай літаратуры. Я ведаю, што на складах захоўваецца нямала так патрэбных дзятве кніг. Але попыту няма, таму з часам гэтыя падручнікі здаюцца ў макулатуру.

***- Магчыма, Таварыства Беларускай мовы пасадзейнічае вырашэнню штучнай, як высвятляецца, праблемы?***

- У час сваіх паездак я вывучаю патрэбу ў навучальных дапаможніках. Буду ўдзячны ўсім, хто звернецца да нас. Пастараемся дапамагчы. Звяртайцеся на адрас : Менск, вуліца Румянцава, 13. Таксама маем шмат даведачнай літаратуры, у прыватнасці, слоўнікаў.

***- Беларуская мова заўсёды мела ў Гродне трывалыя карані. Як траву не касі, узнімецца...***

- ... калі не вытапчуць і калі ёсць каму яе пільнаваць, клапаціцца, вобразна кажучы, пра газон. Так і з родным словам. Беларускамоўны асяродак гарантуе яго захаванне і пашырэнне. Вось па справаздачнасці ў Гродне 12 суполак, 265 актывістаў. У той жа час у Лідзе 38 суполак. Там амаль 40 працэнтаў пачатковых класаў - беларускамоўныя.А горад у некалькі разоў саступае абласному цэнтру па колькасці жыхароў. Газету «Наша слова» у Гродне выпісваюць усяго 70 чалавек, у Лідзе амаль трыста. Адсюль і высновы: гарадзенцам неабходна актывізаваць свае высілкі.

***- Суполкі ТБМ можна ствараць на прадпрыемствах і ўстановах. Так запісана ў статуце Таварыства. Але ці захоча кіраўнік мець такую грамадскую арганізацыю? Вось каб БПСМ, тады іншая справа...***

- Ёсць дзейсны метад прымусіць чыноўнікаў выконваць законы. Гэта публічна нагадваць аб іх парушэннях Канстытуцыі, указваючы канкрэтныя прозвішчы, звяртацца ў суды, у кантралюючыя ўстановы. Урэшце, ніхто не забараняе праводзіць санкцыянаваныя пікеты ў абарону роднага слова.

